Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 21 кастрычніка 1933.

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

№ 21.

Год 1-шы

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

## Масква зьняла маску.

Дзень 28 жніўня 1933 году будзе надоўга памятны ў гісторыі народаў, паняволеных Расеяй: у гэты дзень **Чырвоная Масква канчаткова зьняла маску і ў нацыянальным пытаньні вярнулася да палітыкі царскае Расеі.**

28 жніўня с. г. савецкая ўлада **„скасавала“ беларускую граматыку** дый зрабіла першы крок у кірунку **„касаваньня“ беларускае мовы.** Адгэтуль у межах савецкага гаспадарства забаронена пісаць паводле беларускае граматыкі, навуковыя падставы якое былі апрацаваны ведамым беларускім філёлёгам і грамадзкім дзеячом Тарашкевічам. Кожын, хто — навучаны ў савецкай школе правільна пісаць пабеларуску — **не пастараецца выкінуць з сваей памяці ўсіх правілаў беларускае граматыкі ды стацца ізноў бязграматным,** — кожын будзе перасьледавацца, як **„контррэвалюцыянер“.** Адгэтуль усе кніжкі і часопісы ў беларускай мове будуць друкавацца ў Саветах паводле правілаў расейскае граматыкі.

Так яно было за царскіх часоў — ажно да 1905 году. Друкаваць пабеларуску без „ятяў“ і „ераў“ было забаронена: гэткія друкі папросту канфіскаваліся і зьніштажаліся. Рэвалюцыя 1905 году зламала гэту забарону.

Цяпер другая рэвалюцыя — бальшавіцкая — нішчыць тое, што беларускі народ здабыў у 1905 годзе. Заводзіцца новы процібеларускі рэжым — тым горшы за царскі, што царская ўлада нішчыла беларускія кніжкі, друкаваныя нязгодна з правіламі расейскае граматыкі, а цяперашні „чырвоны цар“ **пагражае нішчэньнем жывых людзей,** адзіным „праступкам“ каторых ёсьць веданьне беларускае граматыкі, якое навучалі дагэтуль дзяцей у ўсіх дзяржаўных школах Савецкае Беларусі.

Коратка і ясна: **беларускаму народу Сталін вынес сьмяротны прыгавор,** і перад намі раскрываецца новая страніца ў гісторыі мучаніцтва беларусаў. Пачынаецца барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць.

Ці ўдасцца „чырвонаму цару“ дапяць сваей мэты? — Вельмі сумліўна.

За царскіх часоў беларускі адраджэнскі рух ледзь-ледзь пачынаўся. Малая жменька нацыянальна-сьведамае інтэлігэнцыі старалася збудзіць такую-ж сьведамасьць і грамадзкую актыўнасьць у цёмных, забітых, здэзарганізаваных і атуманеных варожай уладай народных масах. І ўсё-ж беларусы збудзіліся. Цяпер у Саветах—пасьля колькінаццацігадовае працы беларускіх школаў, беларускіх культурных установаў, беларускае дзяржаўнае адміністрацыі Савецкае Беларусі — **няма ўжо нясьведамых нацыянальна беларусаў, як няма і ніграматных.** Адрабіць гэта, хоць-бы тасуючы самыя жорсткія спосабы барацьбы з беларускай нацыянальнай сьведамасьцяй, Сталіну ўжо ня ўдасцца: **народ беларускі нацыянальна ўсьведаміўся, народ беларускі жыве, жыць хоча і будзе жыць.** І не заб'ець яго Чырвоная Масква, як ня здолела забіць Белая.

## „Рэформа“ беларускага правапісу у БССР.

У газэтах зьявіліся ўжо перадрукі з менскае „Зьвязды“ аб праведзенай савецкім урадам „рэформе“ беларускага правапісу, ці правільней — аб скасаваньні самастойнае беларускае граматыкі ды аб навязаньні беларусам граматыкі расейскае. Падаем тут галоўныя з новаўведзеных „правілаў“, лічба якіх агулам дасягае 27.

Выкінуць мяккі знак паміж мяккімі зычнымі і замест дасюлешняга сьвет, сьнег, сьлед, зьняць, дзьверы, цьвёрды—пастаноўлена пісаць: свет, снег, след, зняць, дзверы, цвёрды, зусім таксама, як і ў расейскай мове.

Таксама выкінуць мяккі знак паміж групамі падвойных зычных (насенне, галлё, калоссе, жыццё, замест дасюлешняга — насеньне і т. п.). Падвойнае „дз“ пастаноўлена перадаваць праз „ддз“ (замест „судзьдзя“ — пісаць „суддзя“).

У злучэньнях караннога „д“ з гукам „с“ наступаючых суфіксаў нязьменна захаваць „с“, як і ў расейскай мове (гарадскі, грамадскі, замест дасюлешніх — гарадзкі, грамадзкі).

Зычныя „г“, „ж“, „з“, „х“, „ш“ у географічных назовах ня зьліваць з суфіксальным „с“, прычым „г“, „к“, „х“ у большасьці выпадкаў зьмяняць на „ж“, „ш“, (волжскі, каўказскі, варонежскі, чэшскі, чувашскі).

Інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя словы не падпарадкоўваць агульнаму правілу аб аканьні. Пісаць: рэволюцыя, совет, большэвік. У іншых чужых словах „о“ перадаваць праз „а“, але захаваць, як і ў расейскай мове, „е“ мяккое: прафесар, універсітет, педагог.

Чужыя словы з „л“ перадаваць на беларускім пісьме „згодна з традыцыйным, пашыраным на БССР“ вымаўленьнем, г. зн. пераважна цьвёрда: метал, бензол, алмаз, балкон, бланк, клас, дыплом, клуб.

У запазычаных словах пасьля „с“ і „з“ заўсёды пісаць „і“, а не „ы“, як гэтага вымагае беларуская мова: марксізм, фізіка, система.

Запазычанае „th“ перадаваць праз „ф“: арыфметыка, логарыфм, міф, кафедра.

Чужое „ф“, наперакор агульным тэндэнцыям беларускае мовы, пастаноўлена перадаваць праз ф: форма, фунт, фабрыка.

Словы небеларускага паходжаньня, як „пролетарый“, „алюміній“ і пад., пісаць з канчаткамі расейскімі „—ый“, „—ій“ і скланяць як назоўнікі тыпу „май“.

Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адз. ліку пісаць з канчаткамі „—а“, „—я“ так, як у расейскай мове: завода, цэха, інститута, соціялізма, універсітэта і г. п.

Беларускія канчаткі давальнага і меснага склонаў назоўнікаў муж. і ніяк. роду множ. ліку „—ом“, „—ох“ замяніць расейскімі канчаткамі „—ам“, „—ах“: кіраўнікам, аб кіраўніках, братам, аб братах, замест: кіраўніком, аб кіраўніках, братом, аб братох.

На гэтым яшчэ не канец. Параграф 29 дэкрэту Савету Народных Камісараў БССР аб рэформе правапісу гаворыць наступнае:

„Даручыць Народнаму Камісару Асьветы і Прэзыдыюму Беларускай Акадэміі Навук арганізаваць сыстэматычную навуковую работу па далейшым разьвіцьці і ўпарадкаваньні беларускага правапісу, усей граматыкі і тэрміналёгіі, таксама арганізаваць новае выданьне беларуска-расейскіх слоўнікаў, выпраўляючы з беларускае мовы ўсялякія буржуазна-нацыяналістычныя тыпы і скажэньні“.

# Трыумф „товажыша Домбаля“.

Агульна ведама, што рапальскі саюз Нямеччыны і СССР меў галоўнай мэтай военнае супрацоўніцтва абедзьвюх дзяржаў, якое ім давала вялізарныя выгады. Нямеччына, пазбаўленая Вэрсальскім трактатам права фабрыкаваць усякі ваенны матэрыял, спаўняла дагэтуль больш менш „сумленна“ гэтую забарону ў сябе дома, але затое фабрыкавала ўсе патрэбныя ей рэчы: і цяжкую артылерыю, і ваенныя самалёты, і труцячыя газы на саюзнай і прыязнай тэрыторыі СССР. З другога боку, нямецкія спэцыялісты адначасна кіравалі адраджэньнем ваеннае сілы Саветаў, якая павінна была—па думцы немцаў—у першую чаргу служыць справе „вызваленьня Нямеччыны з-пад ваеннага бота вэрсальскіх пераможцаў“. Ясна, якую пагрозу эўрапейскаму міру зьмяшчаў у сабе гэты нямецка-савецкі ваенны саюз.

Цяпер Гітлер рве гэты саюз, б'ючы тым самым па ваеннаму супрацоўніцтву СССР і Нямеччыны. І вось, у адказ на яго рэпрэсіі проці савецкіх і нямецкіх камуністаў у Нямеччыне, савецкі ўрад загадаў масавае звальненьне нямецкіх ваенных і наагул тэхнічных спэцыялістаў, якія дагэтуль пераважна кіравалі адраджэньнем ваеннае і тэхнічнае сілы б. Расеі. Наагул, варункі жыцьця і працы немцаў у СССР адразу-ж страшэнна пагоршыліся.

Ясна, што ў першую чаргу былі адсунены ад спраў нямецкія „палітычныя дарадцы“ маскоўскага ўраду, дагэтуль блізу ўсемагутныя...

Бліжэйшым выяўленьнем гэтае зьмены зьяўляецца масавы паварот з СССР дамоў гэтых рознага роду нямецкіх „спэцаў“.

Такім чынам ствараецца вялізарнае вагі палітычная перамена на ўсходзе Эўропы, якую спрытна выкарыстоўваюць галоўныя канкурэнты Нямеччыны ў палітычным апанаваньні СССР. А ў першую чаргу—Польшча, як найбліжэйшы сусед СССР; пасьля Францыя, як найбагацейшая і наймагутнейшая ў сучасны мамэнт дзяржава Эўропы; далей Амэрыка, Італія і т. д.

Найбольш цікаўным і важным для нас, беларусаў, вынікам гэтага грунтоўнага павароту на ўсходзе Эўропы зьяўляецца тое, што месца нямецкіх палітычных дарадцаў у Маскве яўна займаюць дарадцы польскія.. Мы ўжо неаднойчы прыводзілі паасобныя факты і доказы гэтага агульнага зьявішча. Абагульняючы тутака гэтыя факты, можна сьцьвярдзіць вялізарны ўзрост польскіх уплываў, участцы — і ў нацыянальнай палітыцы Масквы ў Усходняй Беларусі.

Яркім „сымболем“ гэтага зьяўляецца прыведзены ўжо намі раней факт замены на паштовых штэмпэлёх (на пісьмах) беларускага назову Менск — побач з расейскім — польскім назовам. Але—побач з гэтым нібы „няшкодным“ сымболем—маюць месца ўжо зусім рэальныя „здабыцьці польскае культуры“ ў Савецкай Беларусі, якія ніяк нельга назваць інакш, як полёнізацыяй не беларускага насяленьня. Успомнім абвяшчэньне „польскімі“ койданаўскага і іншых прыграніч(ых раёнаў, чыста беларускіх па складу свайго насяленьня.

Мы заўсёды ставілі раней за прыклад іншым нацыянальную—асьветна-школьную—палітыку савецкага ўраду ў Беларусі, з якое (палітыкі) так шырака карысталіся і палякі. Адзначым хоць-бы толькі існаваньне ў БССР польскіх школаў усіх ступеняў, польскіх катэдраў у менскім унівэрсытэце (у часе, калі ў Вільні беларускіх няма!) і т. д. Але

цяпер пачалося нешта зусім іншае: цяпер польскія школы пачалі закладацца **МАСОВА** на Беларускай вёсцы... Што-ж гэта, як ня яўная і бясспрэчная полёнізацыя беларусаў пад „прыхільнай апекай“ Масквы,—полёнізацыя, якая і ў мінуўшчыне мела найвялікшы размах (у масах) і пасьпех якраз не ў часе польскага панаваньня ў Беларусі (в. кн. Літоўскім), але ў часе панаваньня расейскіх цароў, калі пры іх былі даверныя польскія дарадцы, як гэта было, прыкладам, пры Аляксандры І і яго прыяцелі кн. Чартарыйскім...

На нашых вачох у Усходняй Беларусі як-быццам узнаўляецца эпоха Чартарыйскага, ролю якога, у першую чаргу, як можна думаць, іграе польскі камуніст Домбаль, ня кажучы аб шмат іншых...

„Товажыш“ Домбаль зьяўляецца, як ведама, віцэ-прэзыдэнтам Беларускае Акадэміі Навук у Менску. Сам прэзыдэнт Бел. Ак. Навук, тав. Горын, зьяўляецца чамусьці адначасна віцэ-прэзыдэнтам Расейскае Ак. Навук у Ленінградзе, і, як нас інфармуюць, як расейскі віцэ прэзыдэнт, ён так заняты ў Ленінградзе, што, як беларускі прэзыдэнт, нічога ня мае часу рабіць у Менску, пакідаючы тым самым усю працу польскаму віцэпрэзыдэнту яе, Домбалю...

Чым пагражае беларусам гэтае „адраджэньне эпохі Чартарыйскага“ ў Усходняй Беларусі ў новым аспэкце, тлумачыць хіба-ж ня трэба. Тое, што робіцца ў Менску хаця-б з былымі пасламі Польскага Сойму, красамоўна сьведчыць аб гэтым..

У заключэньне—апошняя ўвага.

Як страшэнна выклікалі тутака, у Польшчы, тых „здраднікаў“ — камуністаў, палякоў, якія тут сьпярша „працавалі на карысьць суседняе дзяржавы“, а пасьля ўцяклі да яе за кардон... Але-ж вось аказалася, што яны як-быццам мелі крыху „палітычнага алею“ ў галаве і знамяніта прыдаліся ў Саветах цяпер, дзе якраз ня гэтулькі камуністычнай, колькі польскай справе...

Вось, што значыць так-званая дзе так выхваляная марксістамі „дыялектыка жыцьцёвых працэсаў“, у частцы—палітычных падзеяў наагул. Дыялектыка гэтая кажа, што —у бясспынным разьвіцьці жыцьцёвых працэсаў—няма абсалютнага дабра, ані абсалютнага зла. Тое, што сёньня лічыцца злом, заўтра ўжо можа ператварыцца ў дабро...

„Товажыш“ Домбаль, пэўне-ж, можа трыумфаваць цяпер на ўсей лініі—дзе, зразумела, менш, як камуніст, але за тое бясспрэчна больш, як паляк...

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Агульны сход і канфэрэнцыя.** У гэту нядзелю, 22 кастрычніка, у 4 гадз. па пал. ў салі Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі Ім. Ю. Словацкага (Вострабрамская 9) адбудзецца агульны сход бацькоў, а такжа канфэрэнцыя бацькоў з клясовымі кіраўнікамі, якія будуць даваць інфармацыі аб пасьпехах вучняў за першую чвертку бягучага школьнага году.

**Канцэрт славянскае песьні.** 19 лістапада ў Мястовай Салі ў Вільні ладзіцца Канцэрт Славянскае Песьні. Будзе выступаць хор пад кіраўніцтвам гр. Шырмы. У праграме—песьні беларускія, польскія, расейскія і ўкраінскія. Канцэрт ладзіць Бацькоўскі Камітэт Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі Ім. Ю. Словацкага—на карысьць незаможных вучняў.

**Раскопкі на замчышчы ў Горадні.** Праектаваная на 14-ае кастрычніка экскурсія сяброў Бел. Навук. Т-ва ў Горадню дзеля агляду нязвычайна цікаўных раскопак на гарадзенскім замчышчы не магла ў гэты дзень адбыцца і пераносіцца на пазьнейшы час — хіба ўвясну. Частково-ж пазнаёміцца з выкапанымі на замчышчы памяткамі старое беларускае культуры ўдалося і ў Вільні — на дакладзе, які 18 кастрычніка зрабіў тут кіраўнік і ініцыятар раскопак у Горадні грам. Іодкоўскі, багата ілюструючы свой даклад фотографіямі. На-жаль, дакладчык неабаснована стараўся лучыць свае цэнныя выкапні на гарадзенскім замчышчы з Польшчай, адрэзаўшы Горадню ад Беларусі, частку якое яна заўсёды прадстаўляла, а таксама і ад тых багатых памятак архітэктуры і аздобніцтва, з якімі поўную аналёгію трэба шукаць для Горадні у найстарэйшых цэнтрах беларускае культуры — Полацку, Віцебску, Смаленску і г. д.

**Адкрытае „братаньне“ кс. Станкевіча з Акіньчыцам.** Толькі што павадыр хадэцыі скампраміатаваўся абаронай даносчыка Вярнікоўскага, а сьледам за гэтым аканчальна дабівае сябе маральна аб'яднаньнем з Акіньчыцам, вядомым ня менш за Вярнікоўскага сваімі ілжывымі даносамі і пасквілямі на гр. гр. Луцкевіча і Тарашкевіча.

У № 35 „Беларускае Крыніцы“ гучна абвяшчаецца, што „Беларускае Дабрадзейнае Т-ва ў Стоўпцах“ зьвярнулася да хадэцкага „Нацкому“ з заявай аб прызнаньні гэнае хадэцкае экспозытуры „адзінай і запраўднай рэпрэзэнтацыяй беларускага народу ў Польшчы“ і з просьбай прыняць прадстаўніка гэтага Т-ва ў склад „Нацкому“. Прэзыдыум „Нацкому“ пастанавіў запрапанаваць агульнаму сходу „Нацкому“ споўніць просьбу Т-ва. Але „Крыніца“ спрытна замаўчывае перад сваімі чытачамі, что гэнае Т-ва гэта-ж арганізацыя Акіньчыца, і сам ён увойдзе ў склад „Нацкому“...

Дагэтуль павадыр хадэцыі кс. Адам Станкевіч толькі цішком супрацоўнічаў з Акіньчыцам і цішком фінансаваў друк яго-

ных пасквіляў на ўсе беларускія культурныя ўстановы і арганізацыі (апрача хадэцкіх). Цяпер, відаць, настаў адпаведны час зьняць маску і іісьці на адкрытае супрацоўніцтва! Што-ж: і за гэта дзякуй Богу. Прынамся можа і ў найбольш атуманеных клерыкаламі людзей расчыняцца вочы на тое, куды іх вядуць хадэцкія павадыры.

## На правінцыі.

**Беларусь жыве!** (Будслаў, Вялейск. пав.) 8-га кастрычніка, у нядзелю, адбылся ў Будславе ў валаснай салі беларускі спэктакль-вечарына. У праграму ўвайшоў драм. абраз Ф. Аляхновіча „Дзядзька Якуб" са сьпевамі і скокамі, хор і танцы. Ладзіла вечарыну драматычная дружына тутэйшае пажарніцкае стражы, і трэба сказаць, што вынікі апраўдалі працу. Пасьпех вечарыны быў нязвычайны, і вечарына надоўга застанецца ў памяці тутэйшых жыхароў. Галоўная-ж роля вечарыны тая, што яна паказала жывучасьць і магутнасьць Беларускае Ідэі, якая патрапіла згуртаваць расьцярушаную і пасвараную моладзь, натхнуць яе да самаахвярнае працы, а старэйшых—да маральнага і матэрыяльнага падтрыманьня гэтага пачынаньня. У выніку ўсяго даволі вялікая саля валасьці была біткам набітая публікай, і каса сабрала, як на крызысовыя часы, значны даход.

П'еса была адыграна памастацку. Выявіўся тут перад усім талент гадунца В. Б. Г. Часлава Васілевіча, які галоўную ролю Якуба адыграў як найлепш, выціскаючы на вочы сьлёзы ў больш чулых людзей. Вельмі добра згуляла такжа сваю ролю Тася Мясьнічанка, ды наагул — усе. Асобнае слова належыцца арганізатару хору М. Чантарыцкаму. Дзякуючы яго працы, жыхары Будслава ўжо 2-гі раз маглі шчыра захапляцца сваею роднаю песьняй. Наагул вечарына прайшла як найлепш, будзячы надзеі на лепшае заўтра. Дык слава Табе, беларуская моладзь!

Дзядзька.

**У нашай глушы.** (В. Уша, Маладэчанскага пав.). Здаецца, недалёка жывём мы ад чыгункі, усяго некалькі кілёмэтраў, а каля чыгункі, як у ранейшыя часы, заўсёды даведаешся аб жыцьці на шырокім сьвеце; а цяпер то ўсюды глухавата. Газэту рэдка калі ў вочы ўбачыш, а толькі чуеш нейкія плёткі, бо людзі маюць шмат вольнага часу, дый цікава, што робіцца на сьвеце. Есьць цяпер па вёсках і адукаваныя людзі, але стаяць яны ад народу далёка. Можа-б беларусы з Вільні хоць крыху пацікавіліся-б нашым жыцьцём і дапамаглі нам скарыстаць вольны час, асабліва ўвосень, калі ўся работа наша адбываецца каля дому. Т.

**„Вузка, цесна, мала"...** (Вёска Яцкава Валожынскае гм.). Вёска наша знаходзіцца на беразе рэчкі Іслачы. Зямля ў нас пяшчаная, дый тае мала. Перад вайной шмат людзей з нашае вёскі ехала ў месты на заработкі, ды й дома былі заработкі ў лесе. А цяпер дык няма куды ехаць, няма дзе зарабіць, толькі каля няўраджайнай зямлі мусім кратацца, а яе мала. Ось жа за маленькія кавалачкі зямлі нашыя людзі судзяцца між сабой часта цэлыя гады. А колькі-ж каштуюць судовыя справы і адным і другім? Часам самая зямля ня варта і паловы таго, што каштуюць суды. Віной гэтаму цяжкае жыцьцё, але мусіць і самі вінаваты. Ці ня лепш было-б неяк бяз судоў дайсьці між сабою да згоды? Але дзе-ж там, калі цемната наша пхне толькі да звадкі, да страты. С.

# Палітычная хроніка.

**Нячуваны пасьпех „нацыянальнае пазыкі" ў Польшчы.** Паводле канчальных абліčэньняў агульная сума падпіскі на „нацыянальную пазыку" дайшла блізу да 330 мільёнаў зл. Як ведама, дэкрэт Прэзыдэнта аб пазыцы прадбачыў толькі 120 мільёнаў. Але цяпер, з увагі на ня менш значны бюджэтны недахоп, які прадбачыцца і ў будучым годзе, выданы новы дэкрэт, што скарб Польшчы прыме, як пазыку, ня толькі гэтыя 120 м., але ўсе 330 м.

**Польска-савецкая ўмова ў справе сплаву лесу па Нёмне.** Ад даўжэйшага часу вяліся перагаворы паміж Польшчай і Саветамі ў справе сплаву лесу па Нёмне. Урэшце абедзьве староны дайшлі да паразуменьня, і ўмова была падпісана 12 кастрычніка. Умова мае ўвайсьці ў сілу ўжо ў гэтым месяцы. Сплаў лесу мае трываць ад пачатку траўня да паловы лістапада.

**6 „сялянскіх працэсаў".** У апошнія дні ў розных судох Польшчы аднача̀сна адбываліся (дый некаторыя яшчэ ня скончаны) — аж 6 „сялянскіх працэсаў". Блізу ўсе працэсы маюць аднолькавы характар. На ўсіх разглядаліся справы аб „чынным", а навет „аружным выступленьні" сялянскага натоўпу проці ўладаў (паліцыі і адміністрацыі) — у выніку, як кажуць акты абвіненьня, „падбураючае дзейнасьці сяброў „Людовае Партыі". Большасьць абвінавачаных прызнаецца вінаўнымі, і прысуды ім—даволі цяжкія.

Большасьць з гэтых сумных здарэньняў, якім акты абвінавачаньня прыдаюць характар выразна палітычны, мелі месца у Заходняй Галічыне, дзе аграрныя адносіны — на груньце найвастрэйшага ў-ва ўсей Польшчы сялянскага малазямельля — асабліва цяжкія і палючыя. Дык лёгка зразумець, што ў-ва ўсіх гэтых здарэньнях значна менш „палітыкі", як „эканомікі"... Опозыцыйная прэса тлумачыць гэтыя працэсы „барацьбой ураду з опозыцыйнай Людовай Партыяй". Як бы там ні было, але факт, што сялянства цэрпіць падвойна: і ад яго зямельна-гаспадарчай нядолі, і ад „палітычнай барацьбы"... на яго сьпіне!

—.—

**Выхад Нямеччыны з разбраенчае канфэрэнцыі і з Лігі Нацыяў.** Напярэдадні ўзнаўленьня міжнародавае канфэрэнцыі ў справе разбраеньня—пасьля таго, як у доўгіх перагаворах вялікія дзяржавы адкінулі дамаганьні Нямеччыны рэальнага раўнапраўя ў збраеньнях, ці—фармальнага скасаваньня вэрсальскага трактату,— нямецкі ўрад тэлеграмай у Жэнэву заявіў, што **Нямеччына выходзіць з складу разбраенчае канфэрэнцыі, а заадно і з складу Лігі Нацыяў**, якая не спаўняе сваей галоўнай задачы агульнага разбраеньня, абмяжоўваючыся толькі тым, што трымае ўсьпяж у стане разбраеньня і безбароннасьці адну Нямеччыну, памагаючы ўдадатак акружаючым яе азброеным ужо да зубоў дзяржавам у іх далейшым збраеньні.

Гэты крок гітлераўскае Нямеччыны выклікаў вялізарную трывогу і абурэньне — як у Жэнэве ў колах канфэрэнцыі і Лігі Нацыяў, так сама й на ўсім сьвеце. Проціямецкая прэса тлумачыць гэты крок Нямеччыны тым, што яна наагул хоча вызваліцца з-пад усялякага нагляду над сваімі збраеньнямі, вярнуць сабе даваенную „свабоду руху", скінуць апошнія путы вэрсальскага трактату, а ўсё гэта — дзеля падрыхтоўкі да новае вайны. Больш спакойная прэса бачыць у гэтым кроку Гітлера спрытны манэўр, каб змусіць дзяржавы да далейшых уступак у „раўнапраўі збраеньня", а першым чынам, каб перанесьці гэтую справу з агульнае канфэрэнцыі, дзе яна — безнадзейная, на нарады так-зв. „пакту 4-х" (ці — разам з Амэрыкай—5-х) вялікіх дзяржаў, дзе для Нямеччыны кампанія шмат выгаднейшая.

У кожным разе—новы (пасьля Японіі) удар па Лізе Нацыяў, зроблены Нямеччынай—страшэнна цяжкі для гэтае „высокае інстытуцыі", ад якое астаўся, здаецца, ужо адзін толькі цень. Не дарма адна з газэт называе яе „жывым трупам"... Запраўды-ж —трэба сабе ўявіць, што цяпер ужо ў склад Лігі не ўваходзіць большасьць вялікіх дзяржаў, як Амэрыка, Японія, СССР і—цяпер—Нямеччына. А ў Лізе засталіся толькі 3: Англія, Францыя ды „паўвялікая" Італія..

**Новыя „выбары" ў Нямеччыне.** Каб прыдаць больш вагі сваей пастанове аб разрыве з Лігай Нацыяў, Гітлер зьвярнуўся з „маніфэстам" да нямецкага народу, у якім, высьветляючы прычыны такога сэнсацыйнага кроку—„дзеля ратаваньня дзяржаўнага гонару" Нямеччыны, абвяшчае аб новых выбарах у адзіны агульна-нямецкі парлямант. Новыя выбары маюць адбыцца пад лёзунгам зацьвярджэньня нямецкім народам гэтага кроку ўраду.

Характэрна, што новыя выбары — якбыццам мімаходам — маюць пахаваць усе іншыя парляманты дзяржаў, якія ўваходзяць у склад „саюзнае Нямецкае Імпэрыі". Ня менш характэрна і тое, што „выбары" будзе рабіць адна толькі пануючая партыя Гітлера: рэшта партыяў дапушчана да выступленьня на выбарах ня будзе. Дык можна быць пэўным, што „нямецкі народ" пацьвердзіць крок Гітлера „аднагалосна". А тады—няма сумліву—Гітлеру лягчэй будзе гутарыць і таргавацца з дзяржавамі...

**Зачыненьне сэсіі Лігі Нацыяў.** Ціха і блізу без рэзультатаў закончылася 11/X 14-тая сэсія Агульнага Збору Лігі Нацыяў — пры блізу пустой салі. Можна адзначыць хіба-ж толькі рапарт так-зв. 6-тай камісіі (палітычнай) у справе аховы меншасьцяў. Камісія гэтая здабылася толькі на апрацаваньне „рэзалюцыі", якая кажа аб „пажаданасьці", каб „прынцыпы аховы меншасьцяў былі пашыраны на ўсіх грамадзян, якія розьняцца ад большасьці расай, мовай і верай"... Яшчэ больш характэрна, што нямецкая дэлегацыя адмовілася галасаваць за гэтую рэзалюцыю, якая яўна ўключае ў лік меншасьцяў і жыдоў у Нямеччыне, каторых гітлераўцы лічаць меншасьцяй адмаўляюцца... Але статут Лігі вымагае, каб усе пастановы і рэзалюцыі прымаліся аднагалосна. Дзеля таго гэтая, здавалася-б, „лібэральная" рэзалюцыя праваліласе ўрачыста—з віны нямецкае дэлегацыі. А яшчэ так нядаўна Нямеччына была першым абаронцам меншасьцяў у Лізе!

**Новы рэкорд савецкага лятуна.** Савецкі лятун Еўсееў, спэцыяліст па канструкцыі так званых парашутаў (асабліва „парасон", з якім у выпадку катастрофы лятун скача з аэраплянy і спускаецца павольна на зямлю), пабіў сусьветны рэкорд такога скоку з аэрапляну з парашутам. Сьмелы лятун падняўся на вышыню звыш 7 кілёмэтраў (7.200 мэтраў), скокнуў з самалёту, але разьвярнуў свой „парасон" у 150 мэтрах над самай зямлёй, праляцеўшы, як камень, з вялізарнай хуткасьцяй, захапляючай дух—аж 7 кілёмэтраў.

# Гаспадарчы аддзел.

## Зборка і перахоўваньне кораньплодаў.

**Кармавыя буракі.** Кармавыя буракі растуць да позняе восені. Да зборкі іх прыступаюць перад самымі замаразкамі, бо зарана выбраныя з зямлі буракі потым кепска перахоўваюцца. Дасьпеўшымі буракі ўважаюцца тагды, калі іх найніжэйшае лісьцё жаўцее і абвісае. Прыступаць да збору буракоў трэба ў часе сухога надвор'я. Калі буракі сядзяць ня глыбока ў зямлі, то іх лёгка выцягаць проста рукамі; інакш трэба выкопваць віламі. Выдабытыя з зямлі буракі ачышчаюцца ад зямлі тупым бокам нажа, абрэзваецца націна і кончык бурака, які лёгка абломваецца, а таксама абрэзваюцца і бакавыя карэнцы. Пры выбіраньні трэба здаровыя і цэлыя буракі класьці асобна ад параненых або надгніўшых, якія для перахоўваньня зусім не надаюцца.

Найлепей перахоўваюцца буракі ў сухім і памяркоўна халодным склепе, але пры большых колькасьцях часта прыходзіцца іх перахоўваць у капцох. Перад тым, як бу-

ракі маюць быць зложаны ў капец, трэба, каб яны абсохлі і выпарылі лішнюю вільгаць, бо інакш яны ў капцох лёгка псуюцца. Мейсца для капцоў павінна быць сухое і высокае, каб да іх не магла падцячы вада. Насыпаюць буракі ў капцы так, як бульбу. Розьніца толькі ў тым, што бульба беспасрэдна зьверху прыкрываецца саломаю, а пасьля ўжо абсыпаецца зямлёю, а буракі адразу-ж прыкрываюцца зямлёю, бо інакш яны лёгка загніваюць. Для лепшага забясьпечаньня буракоў у капцох ад марозу ўжываюць для прыкрыцьця іх таксама салому, але даюць яе пасьля таго, як буракі пакрыты зямлёю, паверх-жа пласту саломы ізноў даецца зямля. Складаючы буракі ў капец, як і пры накладаньні ў капцы бульбы, трэба пастарацца аб належную вэнтыляцыю. Найлепшы спосаб вэнтыляцыі для капцоў—гэта падоўжная прадушына на хрыбце капца. На верх буракоў кладзецца жэрдка абкручаная саломаю, і капец разам з жэрдкаю абсыпаецца зямлёю; пасьля жэрдка выймаецца, а на мейсцы яе застаецца канал (прадушына). Прадушына гэтая застаецца адкрытай аж да замаразкаў, а пасьля затыкаецца саломаю і прысыпаецца зямлёю. Зімою ў цёплыя пагодныя дні на пэўны час гэтая прадушына адтыкаецца для праветрываньня капца.

**Морква.** Выдабываецца морква з зямлі куды цяжэй, чым буракі. Яе выкопваюць, або навет выгорваюць. Перахоўваецца яна таксама горэй за буракі. Складаюць яе на зіму ў склеп. Пры складаньні трэба яе перасыпаць пяском або сухім торфам, бо інакш яна лёгка псуецца.

**Бручка.** Бручку вельмі трудна перахаваць у капцох, а дзеля таго яе заўсёды стараюцца як найхутчэй скарміць. Невялікія колькасьці яе можна перахоўваць у склепе, як і моркву, перасыпаўшы пяском або торфам. Ня меней трудна перахоўваць і ангельскую рэпу ці турнэпс, якую таксама стараюцца скарміць, як найхутчэй. **З. К.**

## Сіласаваньне (заквашваньне) корму.

У кожнай гаспадарцы ўвосені бывае шмат рознага расьліннага матэрыялу, як сьціблы, ліосьці, націньне, а навет і зялёная трава, якіх нельга высушыць, або каторых ані сьвежымі, ані высушанымі жывёла ня хоча есьці. Увесь гэты матэрыял можна скарміць жывёлаю ўзімку, калі яго засіласаваць (заквасіць).

Увесь сэкрэт сіласаваньня ў тым, што корм павінен быць уложаны як найшчыльней, каб да яго ніякім спосабам ня мела доступу паветра.

Складаць можна корм у адпаведныя мураваныя будыніны (сіласы) або ў дзежкі, шчыльныя скрыні, ці проста ў ямы, або ў сьцірты на паверні зямлі. Усё залежыць ад варункаў. Корм, які складаецца, не павінен быць мокрым і залішне вадзяністым, у апошнім выпадку яго трэба пакінуць, каб правяну́ў. Цьвёрдыя сьціблы трэба абавязкова дробна пасекчы. Патрэбная мера вільготнасьці матэрыялу, які мае быць засіласаваны, пазнаецца наступным спосабам: бярэцца гэты матэрыял у рукі і скручваецца. Калі пры скручваньні сок выціскаецца, але ня капае, то матэрыял гэты якраз адпаведны для сіласаваньня. Корм, які складаецца ў сілас, можна перасыпаць сольлю. Наложаны корм трэба як наймацней утаптаць і прысыпаць зямлёю. Пры зьяўленьні ў зямлі трэшчын, трэба іх зараз-жа засыпаць. Такім спосабам наложаны корм заквашваецца і можа даўжэйшы час перахоўвацца. Звычайна яго даюць жывёле зьмяшаўшы з іншымі сухімі кармамі, як сечка або мякіна.

Есьць яшчэ іншы спосаб сіласаваньня корму. Спосаб гэты розьніцца ад першага тым, што матэрыял для сіласаваньня складаецца не адразу і крэпка ня ўтоптываецца. Тут корм кладзецца пластам таўшчынёю да 1 мэтра, зьлёгка прытоптываецца і так пакідаецца на дзень—два, пакуль ня ўгрэецца настолькі, што ў ім трудна ўтрымаць руку. Пасьля на гэты пласт накладаецца падобны другі і г. д. Такім спосабам наложаны корм потым ня есьць кіслым і мае спэцыфічны вінны запах. Такі корм, калі ён добра ўдасца, жывёла лепей любіць, чымся кіслы. **С.**

# Бацькі!
# Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!

## Рыначныя цэны у Вільні

20. X. 1933 г.

Жыта 1 зл., 90 гр. дэт. 2 зл. 10 гр. Ячмень гурт 2 зл., 20 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Авёс гурт. 2 зл дэт. 2 зл. 20 гр. Пшаніца гурт. 3 зл., 50 гр. дэт. 3 зл. 80 гр. Бульба стар. кілягр. 0,05 гр., дэт. 0,7 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл. — 2 зл. 40 гр. Масла прас. 3 зл. 60 гр. — 4 зл. 00 гр., масла гаспадар. 3 зл. 00 гр. — 3 зл. 50 гр. Яйкі 70-80 гр. — 1 зл. Даляр 6 зл. 28 гр.

## Паштовая скрынка.

**М. Дубоўні ў Пружане.** Вашу карэспандэнцыю аб жыцьці Пружаны зьмесьцім у наступным нумары, бо ў гэтым з увагі на яе велічыню зрабіць гэтага не ўдалося.

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

Уладзімір Крывіч.

## Да моладзі.

Гэй, моладзь, работы ў нас многа!
Ўзьнімайся з заснуўшых далін...
Мы сілы жыцьця маладога
За люд аддамо, як адзін.
Да працы мы возьмемся сьмела,
Збудуем жыцьця новы гмах,
Адвага нам сэрцы сагрэла,
Прачнулася моц у руках.
Напружма ўсе нашыя сілы,
Каб быў па нас добры ўспамін;
Прапуйма да самай магілы
Для люду—усе, як адзін.

в. Макаршчына 1933.

Ар. Ат.

Вёска, мая вёска —
З глыбіні вякоў!
У хаце жорна, кросна,
Поўна абразоў.
Глянь, як прытулілась
Нізка да зямлі,
І над ёй схілілась
Ліпа, дзьве вярбы.
Вуліца даўгая,
Рад абапал хат.
У вакнáх, у стрэхах
Колькі дзіраў, лат?...
Погляд шэрых вокан
Просіцца, заве.
Хто-ж такую хатку,
Хто прайдзе, міне?

——

Дзеўкі — маладзіцы,
Як сьвяты прыдуць,
Чырвоныя ўстужкі
Ў косы заплятуць.
Падружкі, сястрыцы
У кола пабяруцца—
Песьняй весялушкай
Звонка разьліюцца.

——

— Ой, каб нам ды можна
— Замуж ня ісьці,
— З сьвякроўкай ня знацца,
— Вечна вольна жыць,
— Жартаваць, сьмяяцца,
— Хлапчукоў звадзіць?

——

А ці чуў, як жнівам
Песьню запяюць?
Як пальлюцца полем,
З ветрам паплывуць
Песьні цяжкой працы?
Хто іх разбярэ?
Толькі чуеш—ў сэрца
Роднае плыве.

1929.

М. Засім.

## „Дваццаць адно“.

У Ігната поўна хата
Хлопцаў і мужчын.
Другі дзень ідзе заўзята
Йгра ў „дваццаць адзін“.
Граюць ў грошы, у калёшы,
Шапкі, гальштукі, сталы,
У равэры, порткі, боты,
У гумовы пасталы.
Граюць ў сала і у жыта,
У фасолю, бульбу, мак,
А Нічыпараў Мікіта
Б‘е у жончын андарак.
Праіграў. Шкада аддаці:
Рушыў бегчы да дзьвярэй.
Банкаўшчык яго як хваце:
„Гэй, Мікіта, ня дурэй!“
Небарака просіць, моліць:
„Жонка з хаты прагане“...
На бяду якраз падходзіць
Жонка з кіем да дзьвярэй.
А за ёю маці Грышкі
З Апанасавай сястрой,
А на задзе бацька Цішкі
ў руках трасе булавой.
— Андарак ужо праставіў?
Каб ты ножкамі трахнуў!..
Зраблю зараз табе амэн!
Лупцуй, Гаvначка, лупцуй!.
—А дзе мой? А-яй, бяз шапкі!
—А мой вун дзе без парткоў!
-Ой, лупцуй, лупцуй, Агатка,
А ты дзядзька булавой!...
Апусьцела хата з лоскам,
Клён на вуліцы чуваць.
Ці ты знойдзеш, браце, вёску,
Дзе-б ня ўмелі ў карты граць?

——

## З вакна цягніка.

Едзем у цягніку праз захад-поўдзень Беларусі ў сэрца Палесься — Пінск.

Сонца бяжыць па дратох тэлеграфных, як хустка чырвоная калышацца ў чыстаце крыштальнай балотцаў, што за цягнікам бягуць палатнінай шчарнелай. Доўга стаяць нярухомыя людзі, ад працы адарвуцца, глядзяць на госьця, што па чорных шынах — сумна зьвінячых струнах грукаціць. Доўга махаюць рукамі ў вокны.

Рашчасалі працавітыя рукі поле прыгожанька, як галоўку дзіцяці, у палосачкі роўныя, на сьвята—калі зашумяць пад сярпамі жыты напеўныя.

Бярозкі бясконцыя—абрус зялёны. Бягуць адваліны соснаў, пазалочаныя сонцам, ад радасьці цягнік даганяюць, як хлопцы з

поля — так вось, падбегчы за ім — ад радасьці; падбягуць — спыняцца.

Пастушок у полі, як вербачка, да зямлі прырос — заглядзеўся.

На станцыях сьвіткі. Вочы спатыкаюцца з вачыма. Маргаю, падмігіваю. Хай ведаюць: і я такі самы. Загаварываю з цёткамі і чую, як яны расказываюць аба мне ў хаце вечарам. Дзеці з клумкамі ў школу ішлі — падбеглі на станцыю—паглядзець на жалезнага волата—паслухаць незнаёмы шум сталі й жалеза.

— Якая ў вас школа? Польская ці беларуская?

Дзеці маўчаць, хаваючыся адно за аднаго. Адзін, адважны, адказывае: польская. Гавораць пабеларуску. Урэшце завязываецца гутарка. Здалёк махаю ім рукой.

Дарагія дзеці!

Едзем далей. У вагоне спатыкаюся з варожымі поглядамі пасажыраў. Ведаю, што думаюць аба мне, асабліва адзін—вось гэты ў стралецкай шапцы. Для іх цягнікі. Яны езьдзяць. А чорныя рукі—на полі—падымаюцца й апускаюцца ў сонцы.

Пінск. Карычнявыя сьвіткі, падпаясаныя чырвонымі паясамі. На лодках сяляне возяць траву. 5 грошаў вязка. Мова чыста беларуская. Расьцягнуты над ракой горад. Параходы. Над рэчкай сьвежа, і прыгожыя думкі паяўляюцца.

Ходзім па вуліцах. Старым звычаем пайшлі ў царкву. Зачынена. Каля царквы стаіць дыякан. Вочы вясковыя. Можа гадкоў сем таму каровак пасьвіў. Курыць махорку. Частую яго папяросай. Гутарым. Цяжка цяпер жыць. Для кавалка хлеба, відаць, разьлівае ў царкве свой малады голас.

На рынку — рухліва.

— Пачым яечкі? — пытаю вясёлага селяніна.

— 50—55 гр.

Я іх ня куплю, але ў дзесяцёх спытаю: пачым? пагаварыць хочацца.

Па вуліцы ідзе поп.

— Бацюшка — пытаю — дзе пошта?

Не адказвае. Пайшоў.

У месьце ёсьць езуіты. Кляштар.

У месьце ні аднаго вонкавага знаку аб сьведамым беларускім руху. У кіёску сумысьля пытаюся беларускай газэты. Няма. Дзівяцца.

Вечарам над рэчкай — агні. На вуліцах цёмна. Сумна гляджу на прасторы зарэчныя, у той далі вёскі раскіданы, а ў іх тыя людзі, для якіх б'юцца нашыя сэрцы. Цёмна там. Непраглядна. Жудасна цёмна.

Брацьця! Ці вы бачыце, як цёмна навокала...

———

# Наша пошта.

**Сябра Казаровіч!** Вы назвалі свой твор: „Як Сьцяпан шукаў шчасьця?“ — повесьцю, у той час, як гэта простае апавяданьне. Повесьць—гэта большы твор, дзе выступае шмат асоб, дзе адмалёвана жыцьцё цэлага раду людзей, паказаны іх характары, іх ідэолёгія і т. д. Апавяданьне—гэта выпадак, здарэньне, эпізод, які датычыць пераважна некалькіх або аднаго, як у Вас, чалавека. Мы пэўныя, што Вы не зьняверыцеся ў далейшай працы, калі даведаецеся, што гэтае апавяданьне мы не надрукуем Яно, скажам праўду, за-слабое. Творчасьць—гэта паважная і адказная рэч. Трэба шмат працаваць, думаць, шукаць, апрацоўваць. Гляньце навокал—усюды, усюды ёсьць тэмы. Кожны найменшы кавалачак жыцьця—гэта тэма. Трэба толькі тое, што ў жыцьці здаецца неаформленым і зародышным, дакончыць, давясьці да канца, каб даць літэратурны твор. Мы шчыра вітаем Вашу спробу пісаць прозай. Мы бачым, што здольнасьць „лавіць жыцьцё“ у Вас ёсьць. Старайцеся пісаць жыва, маляўніча, захапляюча, арыгінальна. Чытайце навейшыя творы розных пісьменьнікаў, і Вы пабачыце, як шмат Вам трэба зрабіць. Мала нешта напісаць; важна, як гэта напісана, важна, каб гэтае нешта было нечымсь, было пэўнай вартасьцю. Мы яшчэ няраз будзем гаварыць на літэратурныя тэмы. Вы, напр., апісываеце прыроду: „На двары была пагода, сонца ўзышло і абліло сваім сьвятлом усю зямлю. Птушкі пачалі сьпяваць... На пожнях мора расы, выглядаючай пад сьвятлом сонца, як крышталы“ і т. д. Паслухайце, як выглядае тое сама ў іншай форме і ўняцьці: „Сьцяпан пайшоў дарогай, абліты сонцам. У сэрцы нейкая радасьць. І, здаецца, радасьць гэтая — радасьць усёй зямлі. Навакол так сьвежа і весела. Птушкі разьліваюцца ў сіні неабнятнай. Прыемна гэтай раніцай ісьці на новыя шляхі. Здаецца, ня полем ідзе, а па нейкім крыштальным абрусе, што раса серабрыстая заслала пад ногі“ і т. д.

**Гарасім Прамень.** Вершы Вашыя ўсё яшчэ вымагаюць грунтоўнай апрацоўкі. Некаторыя, апрацаваўшы, надрукуем. Працуйце. Пішыце.

**М. Машара.** „Зімовую казку“ пастараемся надрукаваць асобна. Будзем шукаць выдаўцоў, якіх цяпер вельмі трудна знайсьці. Пішыце.

**М. Засім.** Вершы будзем друкаваць. Зборнічак магчыма ўдасца выдаць, але крыху пазьней. Пішыце.

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22